

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



НАША СЛОВА.*pdf*

**Трэці год выдання** **№ 35 (139) 28 жніўня 2024 г.**


# НАВАГРАДКУ - 980

Навагрудак, адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі, з 23 па 25 жніўня святкаваў 980-годдзе з дня першага летапіснага згадвання.

*"Ходи Ярослав на Литву, а на весну заложил Новогород"* - запіс аб гэтым быў зроблены ў 1044 годзе ў Сафійскім летапісе, сведчаць даныя занальнага дзяржаўнага архіва ў Навагрудку. Як паказалі археалагічныя даследаванні дзяцінца, навакольнага горада, курганных пахаванняў, Навагрудак на працягу XI-XIII стст. быў важным рамесным і гандлёвым цэнтрам Верхняга Панямоння. Гістарычнай пярлінай старажытнага горада з'яўляецца замак, будаўніцтва якога пачалося ў сярэдзіне XIII стагоддзя і завяршылася ў пачатку XVI стагоддзя. Менавіта тут у 1253 г. (паводле іншых крыніц у 1252 г.) адбылася каранацыя князя Міндоўга. Згодна з легендай, князь і пахаваны на адным з гарадскіх узгоркаў.

Тут жа, недалёка, у XIII стагоддзі Войшалк, сын Міндоўга, заклаў першы праваслаўны манастыр. Разбураны ў гады Першай сусветнай вайны, Свята-Елісееўскі Лаўрышаўскі мужчынскі манастыр адноўлены і стаў месцам паломніцтва. У гэтым манастыры ў XIV стагоддзі было напісана знакамітае Лаўрышаўскае Евангелле, факсімільная копія якога была выдадзена ў Беларусі ў мінулым годзе.

У 1511 г. Навагрудак атрымаў Магдэбургскае права, у 1595-м быў заснаваны гарадскі герб з выявай Арханёла Міхаіла, які і сёння з'яўляецца патронам горада.

Крывавы след пакінулі тры гады акупацыі Навагрудчыны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Згодна з данымі надзвычайнай камісіі ў Навагрудскім раёне было знішчана больш за 45 тыс. чалавек, 10 тыс. пагнаны ў Германію. У ваенныя гады былі разбураны каля 60 працэнтаў жылога фонду, усе прамысловыя прадпрыемствы.

Сёння Навагрудчына - рэгіён з развітой сельскай гаспадаркай і прамысловасцю, узрастаючым турыстычным патэнцыялам. Тут пражывае каля 30 тыс. чалавек.

Пачатак святочным мерапрыемствам пакладзе навукова-практычная канферэнцыя "Навагрудскія чытанні: гісторыя і сучаснасць Навагрудскага краю".

А паралельна разгарнуўся гастранамічны фэст "Хлеб, сыр, квас і добры настрой" у рамках раённага свята "Дажынкі-2024". Сырны суп па традыцыі рыхтаваў асабіста старшыня райвыканкама Сяргей Чаркоўскі. Увечар каля сцен старажытнага замка прайшлі фэст гістарычнай рэканструкцыі, сярэднявечнай музыкі і танцаў "Меч караля" і "Гістарычны баль"






*(Працяг на ст. 2-3.)*





# НАВАГРАДКУ - 980

(Працяг. Пачатак на ст. 2-3.)

Каля сцен касцёла Святога Міхаіла Арханёла гучала класічная музыка ў выкананні Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, а на цэнтральнай плошчы сабраў публіку кінатэатр пад адкрытым небам.

У праграме другога дня, які быў самым насычаным, - урачыстае адкрыццё свята з удзелам папулярных беларускіх і расійскіх артыстаў, творчых калектываў з гарадоў-пабрацімаў Навагрudка, фестываль электроннай музыкі, малочны фэст "Паспрабуй якасць на густ"



- Шматвяковая загартоўка дапамагае Навагрудку паспяхова будаваць мірнае жыццё. - Пра гэта заявіў на імпрэзе ў гонар 980-годдзя горада намеснік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Віктар Пранюк.



- Навагрудак падыходзіць да слаўннай даты з добрымі паказчыкамі ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці, сацыяльна-культурным развіцці. Толькі за апошнія пяць гадоў тут выраслі новыя жылыя мікраралёны з усёй неабходнай інфраструктурай, установы адукацыі, спартовы комплекс. Працягвае развівацца біятлонны комплекс "Сялец", дзе выхоўваюцца будучыя чэмпіёны. Навагрудак паказвае прыклад паспяховага развіцця, - адзначыў намстаршыні Гарадзенскага аблвыканкама.

- Вельмі цешыць, што Навагрудак стаў сапраўднай турыстычнай Мекай як для жыхароў Беларусі, так і для замежных турыстаў, - дадаў Віктар Пранюк. - Навагрудскі і Любчанскі замкі, музей Адама Міцкевіча, Налібоцкая пушча, гістарычныя месцы старажытнай сталіцы - усё гэта тут берагуць, аднаўляюць, умеюць паказаць гасцям.

- У год 80-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў адмысловую значнасць набываюць помнікі ахвярам і героям Вялікай Айчыннай вайны, - падкрэсліў Віктар Пранюк.

- Мемарыял у памяць пра вязняў Навагрудскага гета, якія здзейснілі масавыя ўцёкі, сцяна памяці пра бязвінных ахвяр, брацкая магіла вояроў, на якую мы сёння ўсклалі кветкі, - усё гэта свята паважаюць у старажытным горадзе, які ніколі не быў зламаны. Гэта векавая загартоўка дапамагае будаваць наша мірнае жыццё, - адзначыў намстаршыні аблвыканкама. - Ёсць усе падставы верыць, што да свайго 1000-гадовага юбілею Навагрудак прыйдзе з яшчэ большымі поспехамі, жыццё тут стане яшчэ камфортней для людзей.



На Замкавай гары размясціўся "Рыцарскі стан" - інтэрактыўная лакацыя з удзелам рамеснікаў, вулічных музыкантаў, тэатра танца, у гарадскім парку - пляцоўка "Горад дзяцінства", на вуліцы Савецкай - "Горад майстроў", у скверы каля плошчы Леніна - інтэрактыўная пля-











цоўка "Спорт запальвае сэрцы". Аўтааматараў чакала выстава рэтра-аўтамабіляў.

У завяршальны дзень святкавання на літаратурна-музычны салон з удзелам членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі і выставу-прэзентацыю "Ледзі Дасканаласць" запрасіў Дом-музей Адама Міцкевіча. На вуліцах горада адбыўся масавы лёгкаатлетычны забег.

***БелТА.***

# Навагрудскія чытанні: гісторыя і сучаснасць Навагрудскага краю

23 жніўня, у канферэнц-зале Навагрудскага дзяржаўнага гандлёва-эканамічнага каледжа адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Навагрудскія чытанні: гісторыя і сучаснасць Навагрудскага краю".




Яна сабрала прадстаўнікоў навуковай грамадскасці з Нацыянальнай акадэміі навук, Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, музеяў ды іншых установаў.







Мерапрыемства праводзілася ў рамках святкавання 980-годдзя першай летапіснай згадкі пра горад Навагрудак.

***Установа культуры "Дом-музей Адама Міцкевіча ў г. Навагрудку".***

# Душа народа - у яго спевах

У рамках шэрагу канцэртаў пад адкрытым небам, арганізаваных Міністэрствам культуры, 17 жніўня ў Аляксандраўскім скверы выступіў заслужаны калектыў Белдзяржфілармоніі - фальклорны гурт "Купалінка".

Яго прадставіла мастацкі кіраўнік Ганна Сцепанкова. Калектыў дэманструе вакальнае мастацтва і беларускія народныя традыцыі на многіх айчынных і замежных культурных пляцоўках.

Творчае крэда фальклорнай групы "Купалінка" - адраджэнне і папулярызацыя нацыянальнага народна-песеннага мастацтва Беларусі. Калектыў распачаў сваю творчую дзейнасць у 1966 годзе як жаночы вакальны квартэт, паэтычнае імя якому дала вядомая беларуская народная песня "Купалінка". Яго стваральнікам і духоўным айцом стаў народны артыст СССР Генадзь Іванавіч Цітовіч. Сёння квартэт "Купалінка" - прызнаны майстар вакальнай культуры, лаўрэат усесаюзных, міжнародных конкурсаў і фестываляў.

У 1986 годзе мастацкі кіраўнік калектыву, народная артыстка Беларусі Алена Сяргееўна Цялькова ў пошуку новых творчых магчымасцяў прынцыпова змяніла аблічча "Купалінкі", узяўшы за аснову больш свабодную форму выканання, спалучаючы змешаныя спевы з інструментальным суправаджэннем. Гэта быў час, адзначаны пошукам адметнай сцэнічнай формы, рухам да мастацкага ўдасканалення і паглыбленнем у сутнасць народнай традыцыі.

Сёння фальклорны гурт "Купалінка", калектыў Белдзяржфілармоніі, запатрабаваны ў краіне і за яе межамі. Ён бліскуча прадстаўляе нацыянальнае мастацтва з тысячамі канцэртаў па ўсёй Беларусі; у рамках дзяржаўных міжнародных мерапрыемстваў у Расіі, краінах Прыбалтыкі, Карэі, Фінляндыі, Вялікабрытаніі, Швейцарыі, Балгарыі, Аўстрыі, Індыі, Канадзе, Люксембургу, Германіі, Бельгіі, Францыі, Югаславіі, Італіі, Сірыі, Даніі, Кітаі; на міжнародных выставах ЭКСПА ў Манрэалі, Гановеры, Мілане, Урумчы, Дубаі, днях культуры горада Менска ў Эстоніі, Фінляндыі - практычна па ўсім свеце.





Праз творчасць фальклорны гурт "Купалінка" захоўвае, адраджае і папулярызуе традыцыі і звычаі народа Беларусі, спрыяе сваім мастацтвам духоўнаму адраджэнню і ўзнёсламу стаўленню да ўсяго роднага.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

## Канверт, прысвечаны Дню беларускага пісьменства ў Івацэвічах

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь выпусціла ў абарачэнне канверт з арыгінальнай маркай "Дзень беларускага пісьменства. Івацэвічы"

Спецыяльнае памятнае гашэнне канверта будзе праводзіцца 31 жніўня ў аддзяленні паштовай сувязі № 5 Івацэвічаў Берасцейскай вобласці.

Дзень беларускага пісьменства адзначаецца з 1994 года ў першую нядзелю верасня і займае ганаровае месца сярод найважнейшых падзей у культурным жыцці Беларусі.

***Паводле СМІ.***







# Класныя спадарожнікі Наталлі Анашкевіч

21 жніўня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў рамках паседжання аматарскага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" прайшла прэзентацыя кнігі Наталлі Анашкевіч "Мае класныя спадарожнікі".



Наталля Мікалаеўна Анашкевіч - класны кіраўнік у ДУА "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды".

Школа - гэта цэлы сусвет, напоўненая рознымі пачуццямі, эмоцыямі, адчуваннямі і ўражаннямі. У 2022 годзе свет пабачыла кніга "У калейдаскопе школьных дзён", на старонках якой было прадстаўлена жыццё яе класа на працягу пяці гадоў навучання ў школе. Новае выданне "Мае класныя спадарожнікі" стала працягам яркіх падзей у жыцці дзяцей, але ўжо ў перыяд іх навучання ў 10-11 класах.

На сустрэчу сабраліся дзеці - героі гэтай кнігі, калегі па працы, літаратары, чытачы бібліятэкі. Наталля







Мікалаеўна пазнаёміла прысутных з новым выданнем - успомніліся пацешныя гісторыі на ўроках, яркія класныя і общешкольные мерапрыемствы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, пазнавальныя экскурсіі. Шмат прыемных слоў і падзякі атрымала ў адказ аўтар кнігі. Праца і талент таленавітага педагога і журналіста захаваны на старонках гэтай кнігі. Гэта выданне несумнеўна стане сапраўдным скарбам для чытачоў.



Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы атрымала ў падарунак ад аўтара кнігу з дароўным надпісам, а ў канцы мерапрыемства было фота на памяць.

***Наш кар.***





# "Усходняя Германія", "Вандэя" перабудовы. Якая Беларусь насамрэч?

## *Барбара Наленч-Нянеўская размаўляе з Мацеем Радзівілам пра ідэнтычнасць краіны яго продкаў*

*Размова адбываецца ў межах праекту "Рэч Паспалітая - не толькі Польшча", у рамках якога мы ладзім дэбаты і пішам тэксты, каб прэзентаваць ідэю Першай Рэчы Паспалітай як супольную спадчыну беларусаў, украінцаў і палякаў.*

Беларусь часта ўяўляецца постсавецкім музеем пад адкрытым небам, эканоміка якога ў польскім інтэрнэце асацыюецца пераважна з вытворчасцю бульбы, аднак у апошнія гады ў гэтай краіне дынамічна развіваецца IT-індустрыя. Саміх беларусаў часам называюць "усходнімі немцамі". Пра невядомы твар Беларусі, а таксама пра выклікі, звязаныя з палітыкай Польшчы ў дачыненні да гэтай краіны, з Мацеем Радзівілам размаўляе Барбара Наленч-Нянеўская.

***- Першая Рэч Паспалітая і Вялікае Княства Літоўскае. Якую ідэнтыфікацыйную ролю гэтая гістарычная спадчына адыгрывае сёння сярод беларускіх эліт?***

- Гэтая традыцыя даволі моцная і карыстаецца цікавасцю людзей, асабліва інтэлектуальнай эліты. Пра гэта загаварылі ў пачатку 1990-х, яшчэ да прыходу да ўлады Лукашэнкі. Нацыянальныя рухі хацелі даказаць, што Беларусь мае не толькі савецкую гісторыю. На гэтую тэму выдадзена шмат кніг. У той час афіцыйнымі сімваламі Беларусі былі літоўская Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг.

Пасля 1995 года Лукашэнка змяніў нацыянальную сімволіку на савецкую і пачаў набліжаць Беларусь да Расіі эканамічна і палітычна. Нягледзячы на гэта, нават ва ўладных колах былі людзі, якія спасылаліся на спадчыну Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). За дзяржаўныя грошы вяліся рэканструкцыі помнікаў часоў Рэчы Паспалітай. Беларусы пачалі адчуваць сваю асобнасць ад Расіі. Яны зразумелі, што ў іх ёсць свая беларуская (ці літоўская), гэта значыць таксама еўрапейская, гісторыя і ідэнтычнасць.

***- Палітычныя і культурныя эліты - гэта адно. Ці прысутнічае гэтая спадчына ў беларускім грамадстве?***

- Я ведаю пару расійскіх гісторыкаў з Ніжняга Ноўгарада. Яны напісалі серыю рэпартажаў пра постсавецкія краіны, у тым ліку пра Беларусь. Іх тэзіс палягае ў тым, што гэтая краіна - "Вандэя" перабудовы, савецкая краіна, якая не змянілася. Калі гісторыкі некалькі тыдняў правялі ў Беларусі, іх здзівілі два пытанні.

Па-першае, тут шмат гавораць пра гісторыю, як і ў Польшчы. Па-другое, многія людзі лічаць сябе нашчадкамі шляхты, нават самой шляхтай. Беларусы гэтым вельмі ганарацца! У гэтай краіне можна назіраць зусім іншае стаўленне да сем'яў былой арыстакратыі, чым у Расіі. Беларусы кажуць: "Нашы Сапегі, нашы Радзівілы, нашы Агінскія". У Расіі гэтага няма, бо там была толькі прыдворная арыстакратыя. Нават калі яны валодалі нейкай маёмасцю на працягу некалькіх пакаленняў, яны ўсяроўна ўвесь час заставаліся ў сталіцы.



***- Таму яны па-просту не зналіся з людзьмі.***

- Тым часам адбылася дэцэнтралізацыя Рэчы Паспалітай, а магнаты на Усходзе былі прывязаныя да зямлі і сялянства. Месцамі нават да Другой сусветнай вайны ў нейкай патрыярхальнай, несучаснай гармоніі, але ўсё ж.

***- Асабліва мяне цікавіць тэма будавання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў на спадчыне Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Ці сапраўды беларусы "маюць права" называць сябе ліцвінамі? Я чула, што яны лічаць сваю краіну правільнай Літвой, бо паводле іх сённяшняя Літва - гэта Жамойць.***

- Гэта крыху перабольшана. Жамойць бярэ свой пачатак ад Кейданаў, таму далёка ад сённяшняй мяжы. Я вельмі часта бываю ў Літве і вяду тую ж дзейнасць, што і ў Беларусі, толькі ў большым маштабе, таму што там прасцей (арганізаваць выставы, фінансаваць выданні, перадаваць "Радзівілаў" у музейныя зборы - *заўв. рэд.*). Сапраўды, летувісы з некаторай занепакоенасцю глядзелі на тое, што Беларусь прыпісвае сабе спадчыну ВКЛ, хоць і самі пачалі шанаваць гісторыю Вялікага Княства зусім нядаўна.

Раней перыяд пасля Люблінскай уніі яны ўспрымалі як час падзелаў, як і мы, што, вядома, было непаразуменнем. Падобныя галасы гучаць нават у Польшчы,





напрыклад, Вольга Такарчук лічыць, што палякі каланізавалі гэтыя тэрыторыі. Безумоўна, была эксплуатацыя насельніцтва, бо так было тады ў свеце. Аднак трэба памятаць, што рабілі гэта мясцовыя людзі. Бо менавіта ліцвінскія сем'і, такія як Радзівілы і многія іншыя, кіравалі гэтай краінай. Іх прадстаўнікі таксама станавіліся каралямі, найважнейшымі чыноўнікамі і біскупамі на тэрыторыі Кароны.

Да нядаўняга часу ліцвіны адносіліся да больш ранняга перыяду - этнічнай Літвы, то бок часоў Гедыміна і Міндоўга. Цяпер гэта змянілася, між іншым, дзякуючы такім "кроплям", якія я распачаў, напрыклад, арганізаваўшы выставу пра род Радзівілаў. Вільня насамрэч была пабудавана ў гэты нібыта перыяд "няволі", бо ад часоў Міндоўга ці Гедыміна засталося няшмат.

***- Калі беларусы хочуць даказаць, што яны спадкаемцы гістарычнага Вялікага Княства Літоўскага, яны выкарыстоўваюць прыклад літоўскіх статутаў, якія былі напісаны па-беларуску. Ці ведаеце вы, на якой мове размаўляла літоўская шляхта, напрыклад, у часы Мікалая Чорнага Радзівіла (16 ст.)?***

- Мікалай Чорны размаўляў па-польску. Тое, што літоўскія нацыяналісты сцвярджалі, што замест летувіскай была ўведзена польская мова, няпраўда. Яна замяніла русінскую мову (ад якой паходзяць беларуская і ўкраінская - *заўв. рэд.*), якая была дзяржаўнай мовай Вялікага Княства да Люблінскай уніі. Захаваліся дакументы, якія пацвярджаюць гэта. Бо ліцвіны былі апошнімі язычнікамі Еўропы, таму ад іх не засталося пісьмовых крыніцаў, акрамя знешніх. Пазней, калі літоўцы пачалі пашыраць сваю ўладу на тэрыторыі цяперашняй Беларусі і Украіны, яны прыцягнулі праваслаўных манахаў - адзіных, хто ўмеў чытаць і пісаць.

Таму мова манахаў стала дзяржаўнай мовай ВКЛ і заставалася такой да сярэдзіны 16 ст., потым з'явілася польская мова. Мікалай Крыштаф "Сіротка", які паехаў вучыцца ў Страсбург, хваліўся ў лісце да свайго бацькі Мікалая Чарнага добрымі адзнакамі па лаціне і нямецкай мове. Бацька адказаў: "Каб ты не забыўся нашай натуральнай мовы", - і напісаў па-польску. Вядома, гісторыкі адзначаюць, што гэта была не такая польская мова, як у Кароне, у ёй было больш "русізмаў". Гэтая мова была крыху іншай да 18 стагоддзя.

***- Раней вы згадвалі пра "Вандэю" перабудовы. Гэты тэрмін таксама выглядае сімптаматычным для польскага ўспрымання Беларусі. У агульным успрыманні наша ўсходняя суседка - звычайна не што іншае, як посткамуністычны музей пад адкрытым небам. Між тым, сацыяльна-эканамічная рэчаіснасць, безумоўна, адрозніваецца ад гэтых стэрэатыпаў.***

- У пачатку 1990-х у Беларусі былі праблемы, падобныя да іншых краін былога СССР: анархія, карупцыя, дзікая прыватызацыя, крадзёж краіны, беспрацоўе, галеча і бандытызм. Лукашэнка прыйшоў да ўлады на антыкарупцыйных лозунгах і здолеў узяць гэты хаос пад кантроль.

Таму гэты перыяд адноснай палітычнай свабоды ці дэмакратыі мае ў Беларусі вельмі кепскія канатацыі. У краіне не было структур і элітаў, якія маглі б ажыццявіць трансфармацыю. Эканоміка развальвалася, а свабода мала што прапаноўвала людзям. Таму, як і ў іншых былых саюзных рэспубліках, кожны раз, калі з'яўляўся аўтакрат, яго сустракалі з нейкай палёгкай.

У Беларусі найважнейшыя актывы па-ранейшаму знаходзяцца ў руках дзяржавы. Гэта бяспечная краіна, паліцыя не такая карумпаваная, як у іншых краінах былога СССР. Канешне, часткова гэта вынік тых велізарных трансфертаў, якія ішлі з Масквы. За апошнія дваццаць гадоў Беларусь атрымала ад Расіі, якая прадавала ёй газ і нафту па льготных цэнах, больш ці менш схаваных у датацыях больш за 100 мільярдаў даляраў. У сваю чаргу Менск нядрэнна экспартаваў нафтапрадукты.

Ці была добрая сітуацыя вынікам эфектыўнага кіравання эканомікай ці датацыямі, якія Лукашэнку ўдалося выгандляваць у Маскве, з пункту гледжання простага беларуса не мела вялікага значэння. Галоўнае, каб не было беспрацоўя і каб дзяржава разумна клапацілася пра сваіх грамадзян.

Дарожная інфраструктура даволі добрая. Менск - сучасны горад, дзе (прынамсі, да нядаўняга часу) шмат людзей жыло на прыстойным узроўні. Акрамя таго, была стабільнасць, якая асабліва была бачная, калі пачаліся канфлікты, напрыклад, напад Расеі на Грузію ці Майдан ва Украіне. Нават тыя людзі, якія не былі прарасейска настроеныя, цанілі мір.

Пазней IT-сфера ў Менску развівалася вельмі дынамічна, таму што ўзровень тэхнічных і дакладных навук у Савецкім Саюзе быў адносна высокім, як і ў Польшчы. Галіны, якія выкарыстоўваюць матэматыку, інфарматыку і фізіку, атрымалі значнае развіццё, у той час як сферы, якія патрабуюць вялікіх інвестыцый, напрыклад, складанае машынабудаванне, атрымалі развіццё менш.

***- Я чула ад сябра-беларуса, які некаторы час жыў у Кіеве ў 2020 годзе, што гэты горад зрабіў на яго не вельмі добрае ўражанне. Ён адчуваў, што ўзровень жыцця ў Менску вышэйшы, чым у Кіеве.***

- Менск вельмі дагледжаны горад, як і ўся краіна. Ніякага смецця на дарогах там не сустрэнеш.

Людзі таксама іншыя, больш дысцыплінаваныя. Некаторыя называюць іх "усходнімі немцамі". Многія людзі, якія працаўладкоўваюць беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы ці імпартуюць нешта з гэтых дзвюх краінаў, заўважаюць адрозненні. Беларусы часцей прытрымліваюцца кантрактаў.

Украінцы (я, вядома, пра пэўную статыстыку) больш падобныя да палякаў. Іх бяруць на працу, але на наступны дзень яны азіраюцца, каб даведацца, ці можна атрымаць на суседняй будоўлі на 50 цэнтаў больш за гадзіну. І яны знікаюць. Такое рознае стаўленне беларусаў мы назіралі, напрыклад, падчас дэманстрацыі ў 2020 годзе. На знакамітых фотаздымках было паказана, як беларусы здымалі абутак, каб стаць на лаўку.





***- А як уладкавана беларуская эканоміка?***

- Беларусь - краіна, дзе больш за палову насельніцтва занята ў дзяржаўных структурах - адукацыі, міліцыі, арміі. Усё яшчэ дзейнічае эканамічная мадэль, якая ў доўгатэрміновай перспектыве з'яўляецца няўстойлівай. Аб'яднаныя Арабскія Эміраты могуць сабе гэта дазволіць, але не тая краіна, якая не мае такіх прыродных рэсурсаў, як нафта. Усё гэта працуе, але дзякуючы кропельніцы з Усходу. "Белкалій", як дзяржаўная кампанія, доўгі час быў вельмі прыбытковым. Яго доля на сусветным рынку калійных угнаенняў складае 20%. Ён - важны гулец. Акрамя яго, ёсць яшчэ некалькі сур'ёзных галін.

***- Кампанія БелАЗ вырабляе самыя вялікія ў свеце самазвалы, а дакладней, самазвалы для працы ў кар'ерах.***

- Ёсць і нафтаперапрацоўчыя заводы.

***- Нягледзячы на гэта, краіна не так моцна багацее.***

- Я б не пагадзіўся са сцвярджэннем, што яна не разбагацела. Апошні раз я быў у Беларусі акурат перад пандэміяй. У Менску я лёгка заўважыў прыкметы багацця, напрыклад, развіццё ЖКГ і IT-сферы, якія складалі некалькі працэнтаў ВУП.

Памятаю, аднойчы ляцеў у Нью-Ёрк бізнес-класам. Побач са мной сеў сціплы малады чалавек. Я заўважыў, што ў яго быў беларускі пашпарт. Ім аказаўся прэзідэнт IT-кампаніі, які збіраўся на сустрэчу з Google або Apple. Ён паказаў мне на сваім тэлефоне, якія робіць праграмы.

Я спытаў, ці шмат рабочых уцякае на Захад. Ён адказаў, што не, таму што мы плацім аднолькава, а кошт жыцця ў Беларусі ніжэйшы, таму многія пачалі багацець. Будаваліся жылыя масівы з даволі вялікіх аднасямейных дамоў, на вуліцах сталі бачныя добрыя аўтамабілі, з'явіліся дарагія рэстараны. Гэта нічым не адрознівалася ад менш заможных гарадоў Польшчы.

Я падазраю, што зараз эканамічная сітуацыя пагоршылася праз санкцыі і ўцёкі пэўнай групы грамадзян. IT-сектар пераехаў у Польшчу, Літву ці Кіеў

***- Як весці свой бізнэс у Беларусі? Я мяркую, што гэта няпроста.***

- У Беларусі няма прыватнага бізнэсу, акрамя IT-кампаній, якія малакапіталаёмістыя і рознымі спосабамі забяспечаныя. Самыя сур'ёзныя сачылі за тым, каб аўтарскія правы і ключы распрацаваных праграм знаходзіліся за межамі Беларусі.

Прыватных вытворчых кампаній няшмат. Як назваў гэта Маркс, патрэбна т.зв. першаснае назапашванне, гэта значыць першапачатковы капітал. У многіх краінах гэты капітал быў створаны дзякуючы прыватызацыі. У нашай краіне вялікая колькасць людзей, скажам так, разбагацела дзякуючы прыватызацыі 20 гадоў таму. Пазней гэтыя людзі займаліся іншымі справамі.

Прыватызацыі ў Беларусі не было. Буйныя прыватныя кампаніі не ствараліся. З'явілася некалькі алігархічных прадпрыемстваў, але гэта хутчэй камерцыйныя прадпрыемствы, якія нейкім чынам супрацоўнічаюць з дзяржаўнымі кампаніямі ці, што яшчэ горш, паразітуюць на іх. Таму эфектных вытворчых кампаній больш няма, яны занадта капіталаёмістыя.

***- А цяпер пяройдзем да гісторыі апошніх дзесяцігоддзяў. Якой была палітыка Польшчы ў дачыненні да Беларусі пасля распаду СССР?***

- Польская палітыка ў дачыненні да Беларусі заўсёды ставіла перад сабой максімалістычныя мэты, што я лічу памылкай. Надзея была на тое, што рэжым будзе перацягнуты на Захад ці скінуты, і там будзе створаная дэмакратычная дзяржава.

***- Ці рабілі за гэтыя гады польскія ўлады спробы дамовіцца з Лукашэнкам?***

- Лукашэнку на першых выбарах нават нейкім чынам падтрымала Польшча. Польская дыпламатыя 1990-х гадоў звязвала з ім пэўныя спадзяванні, бо ён выглядаў чалавекам па-за сістэмай, а не тыпова савецкім чалавекам, не звязаным з наменклатурай, з якой змагаўся. Гэты дыягназ не спраўдзіўся. Лукашэнка вельмі хутка пабудаваў уласны аўтарытарызм на базе апарату, які застаўся ад СССР.

Магчымасць падтрымліваць з ім адносіны была ўпушчана. Ад частковых мэтаў адмовіліся. У розных галінах можна было заключыць пэўныя дамоўленасці і натхніць на дзейнасць, напрыклад, у сферы бізнесу або культуры. Калі было вырашана, што знешнюю палітыку Лукашэнкі немагчыма змяніць, то бок перацягнуць на бок Захаду, усё было закінута.

Будаваліся адносіны з апазіцыяй, якая слабая і была яшчэ слабейшай. Больш сур'ёзная апазіцыя з'явілася толькі ў 2020 годзе. Трэба быць асцярожнымі ў гэтых кантактах, таму што многія апазіцыянеры таксама маюць адносіны з Расіяй. Хто яны, не зусім зразумела, таму падтрымліваць гэтых людзей, безумоўна, рызыкоўна.

***- Ці верыце вы, што ў Беларусі адбудуцца нейкія змены?***

- Без пераменаў у Маскве мала на што можна разлічваць, што было і ў часы БНР. Я падазраю, што Беларусь будзе ўсё больш збліжацца з Расіяй. Шмат людзей з'ехала з Беларусі і будзе з'язджаць.

***- Тым не менш, мой падыход аптымістычны. Ведаю, што цяпер сітуацыя на фронце выглядае нярадаснай, але калі б украінцы выйгралі вайну і калі б Расія стала слабой, то Беларусь...***

- Палітыка - гэта чаканне. Трэба быць цярплівым. Не пачынайце паўстанняў, калі няма шанцаў на поспех. Чакаць - не значыць нічога не рабіць. Вы можаце дзейнічаць у сферы культуры або бізнэсу, усюды, дзе вы можаце чагосьці дасягнуць. Ведаю, што сённяшняя сітуацыя ў Беларусі выглядае безвыходнай, але ў 1970-80-я гады размовы пра падзенне камунізму таксама былі нязбытнай марай.

З пункту гледжання Польшчы я гэта заўсёды кажу, проста паглядзіце на мапу - усходняя мяжа Беларусі -





гэта мяжа Рэчы Паспалітай да першага падзелу. У нашых інтарэсах захаваць гэтую мяжу як мага даўжэй, каб гэтая краіна, нават далёкая ад нашых ідэалаў, змагла выжыць. Чым даўжэй яна існуе, тым больш адметнасцяў развіваецца.

***- Тым бяспечней для нас.***

- Бо цэлыя пакаленні маліліся, каб рускія сышлі. У "Братах Карамазавых" ёсць сцэна, у якой Дзмітрый забівае бацьку, забірае грошы і ладзіць вялікае свята для каханай. На ім фігуруюць два царскія афіцэры, палякі. Усе весяляцца, п'юць, льецца шмат шампанскага.

У нейкі момант гулякі падымаюць тост за Расію. Падчас гэтага тосту палякі дэманстратыўна не п'юць. Карамазаў пытаецца: "Чаму вы не п'яце за Расію?" А яны ў адказ: "Можам піць за Расію, але толькі ў межах 1772 года". Вельмі значная сцэна. І наша сённяшняя мяжа з Беларуссю - гэта амаль мяжа трэцяга падзелу.

***Мацей Радзівіл.***

*Бізнесмен, які працуе ў сферы аднаўляльных крыніц энергіі. Уладальнік некалькіх кампаній па падрыхтоўцы фотаэлектрычных і ветравых праектаў і вы-творчасці зялёнай энергіі. Выпускнік філасофіі, сацыялогіі і менеджменту ў Варшаўскім універсітэце, а таксама адукацыя MBA ва ўніверсітэце Ілінойса ў ЗША. У 1990-я ён быў банкаўскім кансультантам і біржавым аналітыкам. Найстарэйшы на сёння прадстаўнік роду Радзівілаў, які ведае Беларусь, любіць Беларусь і імкнецца супрацоўнічаць з Беларуссю.*

***Барбара Наленч-Нянеўская.***

*Барбара Наленч-Нянеўская - выпускніца Кінашколы ў Лодзі і Нью-Ёркскай кінаакадэміі ў Нью-Ёрку. Рэжысёр анімацыйных, мастацкіх і дакументальных фільмаў. Член Ягелонскага клуба. Яна вядзе відэаблог на YouTube пад назвай: "Бася пытаецца пра Усход".*

# Спектакль, які апавядае пра гісторыю горада

У новым тэатральным сезоне у кастрычніку ў Маладзечанскім абласным драматычным тэатры зноў будзе дэманст-равацца спектакль "Вежы Маладзечанскага замка".




Прэм'ера спектакля праходзіла 16 снежня 2023 года.

П'еса "Вежы Маладзечанскага замка" напісана драматургам Ягорам Коневым спецыяльна для Менскага абласнога драматычнага тэатра і прымеркавана да 635-годдзя горада Маладзечна. У апавяданні ўмела перапляліся гістарычныя звесткі і мастацкая выдумка.

П'еса ў захапляльнай манеры апавядае пра падзеі рубяжа XIV-XV стагоддзяў, калі Маладзечна быў адной з найважнейшых цвердзяў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і стрымліваў "націск на ўсход" рыцараў Лівонскага ордэна.

У той лёсавызначальны перыяд сваёй гісторыі Маладзечанскі замак застаўся без абаронцаў - тутэйшая дружына пайшла ў паход разам з войскам вялікага князя Вітаўта. Раптам пад сценамі замка з'яўляюцца лівонскія рыцары.

Пажылы ваявода князь Сямён Заслаўскі вагаецца: адчыніць ворагу вароты ці загінуць у безнадзейным баі? У замку толькі старыя ды дзеці. Ці можна на чале такога воінства адолець бязлітаснага ворага?

Яго жонка княгіня Станка падазрае, што нехта ў замку дапамагае лівонцам.

Ці паспеюць назіральная княгіня і яе служанка Касюта абясшкодзіць здрадніка да пачатку штурму? Як хутка адчай можа змяніцца трыумфам кахання?

Чаму замак набыў назву "Маладзечна", а на яго гербе з'явіцца Багародзіца?

І што ж будуць увасабляць чатыры вежы Маладзечанскага замка?

Адказы на гэтыя пытанні дасць спектакль вядомага беларускага рэжысёра Валерыя Анісенкі.

Мастаком пастаноўшчыкам спяктакля выступіў Андрэй Меранкоў, музыку да спектакля напісаў кампазітар Андрэй Лабчэўскі, які падзяліўся навіной пра ўдзел у пастаноўцы.

***Эла Дзвінская.***



**№ 35 (139) 28 ЖНІЎНЯ 2024 г.**
наша СЛОВА.pdf

# Свята мукі "Дварышчанскі млынар"

25 жніўня ў аграгарадку Дворышча прайшло свята мукі "Дварышчанскі млынар".

Адбылося яно на турыстычным комплексе "Вольны мельнік", які сёння з'яўляецца адным з самых папулярных месцаў адпачынку ў Лідскім раёне і названы ў гонар млына, які стаіць тут жа.





На свяце праходзіў конкурс "Дварышчанскія прысмакі", дзе гаспадынькі аграмястэчка прадставілі шмат розных страў з мукі.




Усіх гасцей свята чакала канцэртная праграма лепшых артыстаў Лідчыны. Песні гучалі шчырыя ды вясёлыя! На свяце была прадстаўлена тэатралізацыя "Жаніцьба млынара".



Маленькія ўдзельнікі свята маглі павесяліцца на дзіцячай пляцоўцы, пагойдацца на атракцыёнах. Кожны ахвочы мог набыць сувеніры ад майстроў народных промыслаў, паўдзельнічаць у майстар-класах па побытавых танцах, лепцы з салёнага цеста.



А напрыканцы свята ўсіх чакала супер-бітва волатаў мяшкамі з мукой "Мукабойня"!



***Наш кар.***



# Ліпеньскі рэкорд: Германія вырабляе больш электрычнасці за кошт энергіі сонца, чым калі-небудзь раней

***Бум узнаўляльнай энергетыкі працягваецца: у ліпені ў Германіі быў усталяваны рэкорд. І нават дажджлівыя дні не змаглі гэтаму перашкодзіць***



У ліпені вытворчасць электрычнай энергіі за кошт энергіі сонца ў Германіі дасягнула свайго гістарычнага максімуму.

- У ліпені за кошт сонечнай энергіі было выраблена каля 10 ТВт/г электрычнасці - больш, чым калі-небудзь за адзін месяц, нягледзячы на тое, што ўзровень інсаляцыі быў ніжэй, чым летась, - сказаў федэральны міністр эканомікі Роберт Хабек. - Гэта значыць, што нашы меры эфектыўныя і сонечнай электрычнасці становіцца ўсё больш. Развіццё галіны ідзе поўным ходам.

Развіццё сонечнай энергетыкі відавочна паскорылася. Летась, па ацэнках Федэральнага сеткавага агенцтва, прырост падвоіўся ў параўнанні з папярэднім годам і склаў амаль 14 Гвт.

Па дадзеных міністэрствы эканомікі, агульная магутнасць усталяваных сонечных сістэм на канец чэрвеня склала больш за 90 Гвт. Гэта значыць, што мэта нямецкага ўрада, якая складаецца ў тым, каб у 2024 годзе давесці ўстаноўленую магутнасць да 88 Гвт, была дасягнута ўжо ў першай палове года. У 2030 гады ўстаноўленая магутнасць павінна складаць 215 Гвт.

З 2026 года вытворчасць сонечнай энергіі павінна быць павялічана ў тры разы.© AdobeStock.

*Берлін (dpa).*

***Навіны Германіі***

# У Дрэздане адбылася цырымонія закладкі першага каменя ў падмурак завода па вытворчасці мікрасхем

***Фон дэр Ляйен і Шольц вітаюць пераарыентацыю ЕС на вытворчасць паўправаднікоў***



Старшыня Еўракамісіі Урсула фон дэр Ляйен і канцлер Германіі Олаф Шольц прынялі ўдзел у сімвалічнай цырымоніі закладкі першага каменя для будаўніцтва новага завода па вытворчасці мікрасхем у Дрэздане. Будаўніцтва гэтага завода азначае сабой пераарыентацыю ЕС на вытворчасць паўправаднікоў. Еўрасаюз мае намер стаць больш незалежным ад глабальных ланцужкоў паставак. Завод павінен амаль падвоіць долю Еўропы на сусветным рынку мікрасхем, якая на сённяшні дзень складае дзесяць адсоткаў. З 2027 года тут будуць выпускацца мікрасхемы пераважна для аўтамабільнай прамысловасці. Вялікія інвестыцыі ў дзесяць мільярдаў еўра з'яўляюцца сумеснай ініцыятывай тайваньскага гіганта паўправадніковай індустрыі TSMC і кампаній Bosch, Infineon і NXP Semiconductor, якія ўжо абасналіся ў Дрэздане. Завод, які створыць каля 2000 працоўных месцаў, будзе звацца “Еўрапейская кампанія па вытворчасці паўправаднікоў” (англ. “European Semiconductor Manufacturing Company, ESMC”).




*Дрэздан (dpa/sn).*


№ 35 (139) 28 ЖНІЎНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

*Зміцер Захарэвіч*

# ЖНІВЕНЬСКІЯ АБРАЗКІ

**СТАРАЯ СТУДНЯ**

Праз паняверку з тропу зблудзіў,
Брыду няведама куды.
Мая душа - старая студня
Без жыццятворнае вады.

Атожылкі падземным рэкам
Не ручыць да яе прабіць,
Мінулых свят глухое рэха
Са змрочнай глыбіні гучыць.

Гусцее вогкая чарнота,
Як хмарны вечар у акне,
І зоры згаслыя лістотай
Залеташняй ляжаць на дне.

**НА ПАЧАТКУ НОЧЫ**

Накрыўся мяккім пледам горад,
Хаваючы парэшткі дня,
І сыдзе ў невараць "учора"
Чумацкім шляхам да відна.

Астудзяць развітальны жнівень
Струмені зорыстых дажджоў,
Ва ўсіх, каму я дробязь вінен,
Пазыку звёўшы на нішто.

Спакой і сопат свет напоўняць,
Ды ўсё ж, стаміўшыся чакаць
Усход, гарэзлівыя промні
У сне дзіцячым узгараць.

**ПЯРУНАЎ ГНЕЎ**

Ахопленая выша гневам -
Праз шал двухногіх на зямлі
Пярун, раз'юшыўшыся, неба
На ўсім абшары падпаліў.

Грукоча цяжка калясніца
Пад грозны пошчак капытоў
І не згасаюць бліскавіцы
Над пустацветам гарадоў.

Залева бізуном хвастае
Ядваб аголеных плячэй -
Спагады Грамавік не мае,
Хоць дыхаць робіцца лягчэй.

**НА ДОСВІТКУ**

Сыходжу ў гушчары туману
З чужых, няветлівых вачэй,
Надзеяй марнаю світанак
Цяпер ужо не апячэ.

Пакінуў мроянняў бязладдзе
Для ўзвышаных і маладых,
Мінуламу нібыта здрадзіў,
Спаліўшы за спіной масты.

Мае ахутваючы плечы,
Ад шкадаванняў сцеражэ
Сівая золь і нема сведчыць,
Што подых восені бліжэй.

**ПЫТАННІ**

Бярозы дробна трапяталі,
Гублялі лісце ў золь расы,
Калі над гаем праплывалі
У далеч смужную буслы.

Бо дрэвы знаюць - па адлёце,
Дзён спраўджваючы колабег,
З нябёс спусцелых на галлё іх
Аголенае ляжа снег.

І, хоць нядоўгі век завеяў,
Усё ж не сканчваюць пытаць:
Ці зноў налета заквітнеюць?
Ці ўвесну птушкі прыляцяць?

**ПРЫКМЕТА**

Грахі за дзень, нібы драбніцу,
Заход падлічыць пакрысе,
А ззянне промня вечарніцы
Бяз жалю згадкамі працьне.

Бяссонне сядзе пры пасцелі,
Каб раны памяці цвяліць,
І ветаха ламаны шэлег
Не выйдзе давідна згасіць.

Бо між бадзягаў ёсць прыкмета,
Якую спраўдзілі не раз, -
Туды, дзе назнарок манеты
Шпурляў, вяртаешся праз час.



**НАВАЛЬНІЦА Ў МЕНСКУ**

Сляза па шыбіне бяжыць -
У Менску дождж хвастае спёку,
Лістота ў сполаху дрыжыць
Ад водгулля грымот высокіх.

Змываючы бясчасся пыл,
Уладна рэй вядуць струмені,
І гіпсавыя балваны
Падобныя да збляклых ценяў.

Прад поступам нястрымным хмар,
Пад ветравеем асвяжальным
Сплывае з вуліц смаглых сквар
Кудысь да берагоў Анталі.

Навала збаўная, крапі
Зямлю задухі і змярцвення -
Нагбом з нябёсаў напаі
Яе вадою ўваскрашэння!

**НА ІЛЛЮ**

Не чуваць было зранку
грукатанне колаў Іллёвых,
Срэбнагрывы Пярун
сваіх стрэлаў не кідаў з вышынь,





Адно золак пацешыў
зыркай зліваю прамянёвай,
Пакрапіўшы спярша
шамаценнем нядоўгай імжы.

Дрэмле сонечны дзень
у абдымках разложыстых хвояў,
Далягляд разамлеў
у бяспечнай, глухой цішыні,
Адбівае рака
жамчуговы прадон над спакоем,
У якім не хапае
мне грымотаў і навальніц.

Досыць песцілі нас,
бестурботнасцю сну спавівалі,
Пранікнёна нашэптвалі
аб сабекошце быцця
Незаўважнага звонку,
і ў выніку закалыхалі,
Аж спусцеў - абязбожыўся -
некалі ройны прасцяг.

Хай шугаюць вятры!
Хай сусвет разарвуць бліскавіцы!
Хай пабудкай нясецца
віхураў бязлітасны смех
І з нябёс пашчапаных
насупар слязам баязліўцаў
Насланнё амарокі
зухвала
дазвання садзьме!

**МАЛІТВА АБ ДАЖДЖЫ**

Дзе ні ступіш - зямля рыхтык порах,
Кінь запалку і знішчыш Сусвет.
"Піць!.." - сіпіць увушшу кожны шолах,
Трызняць студні сасмяглыя ў сне.

Даўно хіба яна ўсцяж гарэла,
Далеч засцячы чадам баёў?
Праўда, сёння вісіць неба белае
Над зялёнаю ржою садоў.

Між якімі з-за шалу задухі
З вачэй высахлых ані слязы,
Угару прагна цягнуцца рукі
У малітве аб спорным дажджы.

"Усяўладны, дзяцей чалавечых
Не пакінь - сваю ласку пралі,
Вярні воды бурлівыя рэчак
І патоляй палі напаі!

Уратуй ад нішчымніцы злое,
Дай бязвінным малым ацалець,
Каб наш край абышлі стараною
Невідушчыя голад і смерць!.."

Пот па змучаных тварах струменіць
Тых, што пад зіхаценнем крыжоў
Спадзяюцца прыждаць на каленях
Гром спагадным адказам Яго.

Ён ці чуе літанні аб долі?
Трэпле ветрык жыты валасоў,
Аплывае маўклівая долу
Спёка золатам з абразоў...

**ЗЛАМАНЫЯ ЯБЛЫНІ**

Да восені яшчэ траціна лета,
Аднак ужо - бясхібная прыкмета
Сыходу - дні драбнеюць безупынку
І ў вырай нетаропка павуцінка
Плыве ў паветры, і прырода з намі
Зычліва дзеліцца зямлі пладамі.
Усцяж сады купаюцца ў прамені,
А я на свой гляджу ў зніякавенні -
Віхура, наляцеўшы ў час залевы,
У ім збяёдала, зглуміла дрэвы,
Якія пасадзіў, з вайны прыйшоўшы,
Дзед Юзаф, попел з друзам шуфлем згробшы.
Нястомна гадаваў ён без прынукі
Дачкам наедак і гасцінцы ўнукам,
І яблыні нас шчодра частавалі,
Але сягоння ўночы не стрывалі
І непагоды, і гадоў цяжару -
Зламаліся пад хмарнаю чамарай,
Хоць позірк цешылі, нібыта ўборам,
Чаканым ураджаем толькі ўчора.
Цяпер ляжаць на травяной пасцелі
Галлё й плады, што выспець не паспелі.
Раз-пораз так і ў лёсе чалавечым -
Неспадзяванка будучынь нявечыць.
Чакае яблыні прысуд суровы -
Каліс квітучыя пойдуць на дровы,
І ўрэшце ў небе восеньскім настылым
З мінуўшчынай без следу знікнуць дымам.

**НЯПЭЎНАСЦЬ**

Звініць птушыны пераспеў
Яшчэ ў празрыстасці настылай,
Але час спакваля прыспеў
Харыстам выпраўляцца ў вырай.





Што промністыя галасы
Па іх адлёце нам заменіць?
Ці толькі - чвяканне слаты
І нуднае выццё мяцеліц?

Якой уцятых дзён пара
Запомніцца па завяршэнні?
Няўжо зноў праз цяжар радна
Па-над азнакамі здранцвення?

Ці ўсім налета трапіць стрэць
Чароды з берагоў бязвізу,
Каб кроў у жылах адагрэць
Пад неўтаймоўнасць вакалізу?

Калі і чым аддзячым ім?
Свет тоне ў нотах развітальных,
А ў небе падарожных клін
Пераўтвараецца ў пытальнік.

Няпэўнасць прышласці гняце,
Знайсці адказы няма змогі,
І ўсё-ткі спеўнай грамадзе
Гукну: "Шчаслівае дарогі!"

**НА РОЗВІТ**

Золь, і жаль, і ўсмешкі бліц на ўдачу -
Панадворак пакідаю твой.
Ні "replay" націснуць, ні зыначыць -
Памахай на розвіт мне рукой.

Згадкі пра завершанае лета
Спавіваючы сівой тугой,
Датляваюць нашы цыгарэты -
Памахай на розвіт мне рукой.

Пуста ў садзе - ураджай сабраны,
Жураўліны клін над галавой.
Не прынадзіш яблыкам крамяным -
Памахай на розвіт мне рукой.

Прышласць згасла ў позірку апошнім,
Хоць наперадзе гадоў сувой.
Не ўстурбуем ліставаннем пошту -
Памахай на розвіт мне рукой.

Знікну я ў вакзальным шматгалоссі,
Ты ў будзённы вернешся спакой.
Закідае лісцем след мой восень -
Памахай на розвіт мне рукой.

**УРАНІЦЫ**

Яшчэ ні трохі не адчуў
Прышэсця восеньскіх туманаў,
Старонне скрозь смугу сачу,
За сонца яблыкам румяным.

Ізноўку абяцае дзень
З усмешкай цёплай - быць праменным,
Хаця ў ім спеюць пакрысе
Бязрадасныя перамены.

Ды вырачанасць не гняце,
Адно вакол люструюць вокны,
Як знічкай на плячо зляцеў
Лісток, апоўначы пажоўклы.

**РЭФЛЕКСІЙНЫ КРАЯВІДЗІК**

Сплывае дым - скурэў у попел
Лагодны жнівень цыгарэтай,
У памяці расце некропаль,
Чарговае прыняўшы лета.

Чародаў крыкі песняй жальбы
Над хмарнай далеччу лунаюць,
Скуль птушкі ў вырай ратавальны,
Як душы продкаў, адлятаюць.

Цяпельца на вятрыску пэўней
З павевам кожным узгарае,
І ўсё, зрабіць што не паспеў я,
У ім бульбоўнікам знікае.

**ПАВУЦІНКА**

Сівою павуцінкай шытыя
Мае і шнары, і ўспаміны,
Таму між пожняй і блакітам я
Слядоў нягойных не пакіну.

Вятрамі ўзняты ў вераснёвую
Празрыстасць развітаўся з плоццю,
У часу неварацць скіроўваю,
Нібы вальсуючы ў палёце.

Да ўчорашняга абыякавы,
Нябачным рушачы гасцінцам,
На збаўным раздарожжы ўдзячліва
Растану лёгкай павуцінкай.





Гіпаліт Корвін-Мілеўскі

# Успаміны пра семдзесят гадоў (1855-1925)*

## Кніга першая. Прыватнае жыццё (Скарочаны пераклад)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Гэты ж 1861 год упісаў у нашу мясцовую гісторыю сапраўды прыгожую старонку, сляды якой, у значнай ступені, бачны і цяпер. Праклёнам тых часоў было ўсеагульнае, па-сапраўднаму д'ябальскае п'янства вясковага люду, якое падтрымлівалася прыкладамі самой шляхты і аблягчалася фенаменальнай таннасцю гарэлкі (добры кілішак 40% - най гарэлкі прадаваўся ў вёсцы за два грошы, гэта значыць за 1 капейку). У дні маіх вакацый 1860 г. у святочныя ці базарныя дні, вечарам нельга было праехаць па дарозе, бо праз кожныя некалькі сотняў крокаў каля ці нават пасярод дарогі, як труп, ляжаў п'яніца.

Але на пачатку 1861 г., напэўна, дзякуючы вялікаму маральнаму ўздыму, які суправаджаў вызваленне сялян, ковенскі біскуп Валанчэўскі, вельмі годны каплан, хоць і крыху дэмагог, выступіў з ідэяй заснаваць сярод народа "брацтва цвярозасці". Паўсюдна, куды дасягаў уплыў каталіцкага кліру, у нядзелю ці на святы пасля стандартнай пропаведзі, ксяндзы заклікалі парафіян прыняць з крыжам і евангеллем асабістую прысягу аб поўнай цвярозасці. Ксяндзы мелі адмысловыя кнігі для запісу чальцоў брацтва. Гэты рух мусіў мець і меў даволі цяжкія наступствы для абшарніцкай шляхты, бо на вёсцы было моцна пашырана вінакурніцтва. Мой бацька сам валодаў пяццю спіртзаводамі і пасля гэтых падзей адразу зачыніў два з іх. Нягледзячы на гэта, абшарнікі таксама актыўна ўдзельнічала ў руху. Вынік перасягнуў усе чаканні. Сяляне, саромеючыся адзін аднаго, аб'ядноўваліся ў брацтвы, п'янства выходзіла з моды і нават праз вялікі час, калі вымерла ўсё тагачаснае пакаленне братоў, мода на п'янства сярод вясковага люду не адрадзілася. Знікла п'янства і сярод шляхты, але гэта было звязана з жорсткімі пакутамі 1863 г. і іх наступствамі. З чыста фіскальных меркаванняў расійскі ўрад спрабаваў перашкодзіць гэтаму кроку. Але было ўжо занадта позна[34]. Праваслаўнае духавенства ў гэтым руху не прымала ніякага ўдзелу, і таму да апошняй сусветнай вайны ў маім краі цвярозасць можна было атаясамліваць з каталіцтвам, а праваслаўе - з п'янствам.

Вакацыі 1861 года мы зноў правялі ў краі, але ў зусім іншай атмасферы. У свядомасці панавала эпапея Гарыбальдзі з аб'яднаннем Італіі якая лёгка запальвала розумы "ад мора да мора". У Расіі панавалі ліберальныя і рэфарматарскія плыні, адбываліся дэманстрацыі ў

---

* Пераклад Леаніда Лаўрэша паводле: *Korwin-Milewski Hipolit. Siedemdziesiat lat wspomnien (1855-1925). Poznan, 1930.*

[34] Каталіцкім касцёлам у 1850-х гадах быў ініцыяваны рух за цвярозасць, які разглядаўся ўладамі як пагроза напаўненню бюджэту і небяспечная "польская" грамадская ініцыятыва. Аднак ураду прыйшлося пайсці на пэўныя захады, каб зменшыць спажыванне алкаголю, у тым ліку даўшы палёгку піваварам, бо да гэтага часу падаткавая палітыка стымулявала перавагу гарэлкі над усімі іншымі алкагольнымі напоямі. На месцах былі створаны "Камітэты для назірання за правільным продажам алкагольных напояў". У Лідзе такі камітэт пад кіраўніцтвам павятовага маршалка шляхты (прадвадзіцеля дваранства) Рамуальда Казіміравіча Кастравіцкага (кавалер ордэна Св. Уладзіміра 4-й ступені) з'яўляецца ў 1846 г. Акрамя маршалка, камітэт утваралі 3 сябры камітэту і 13 дэпутатаў, папяровымі справамі камітэта займаўся "пісьмавадзіцель" павятовага маршалка шляхты. Сярод "дэпутатаў" камітэта ў 1850 г. з'яўляецца і "Мирон-Бронислав Фридрихович Нарбутт", які пісаў: *"З 1860 года, калі ў цэлым Краі пачаў абуджацца разумовы рух, актыўна клапаціліся пра заснаванне народных школ і лідзяне, а духавенства пашырала таварыства цвярозасці з даволі паспяховым вынікам, так што побыт лідзян значна палепшыўся, і ў 1862 годзе спаткаць п'янага лідзяніна было ўжо рэдкасцю"*. Неабходна заўважыць, што ідэя народнай цвярозасці прыйшла ў наш край з Еўропы, і асаблівы ўздым гэтага руху прыйшоўся на 1858-63 гг., г. зн. перад самым паўстаннем: *"У Царства Польскае цвярозасць прыйшла ў 1857 г. і адтуль у канцы 1858 г. распаўсюдзілася ў сумежных губернях: Ковенскай і Гарадзенскай. ...у снежні 1858 цвярозасць прыйшла і да нас ... і да 1 сакавіка 1859 г. цвярозасць распаўсюдзілася па паветах: Віленскім, ...збольшага па Ашмянскім і Лідскім"*. Да канца 1859 г. 39 408 чалавек на Лідчыне публічна, у храмах, прынялі на сябе абавязак устрымлівацца ад ужывання алкаголю.

У 1859 г. у суседняй Гарадзенскай губерні доля даходаў дзяржаўнага бюджэту ад продажу і вытворчасці алкагольных напояў даходзіла да 55% ад усіх даходаў. У любой іншай краіне гэты паказчык не перавышаў 24 %, Віленская губерня, куды ўваходзіў Лідскі павет, мела прыкладна тую ж статыстыку, што і Гарадзенская. - *Л. Л.*

Варшаве і пасля іх - жалоба, чамаркі і г.д.[35]

Наш прыезд у Вільню супаў з момантам, калі першыя хвалі заразы дэманстрацый пачалі даходзіць і да нас. У пачатку жніўня, незадоўга да заходу сонца, мы ўязджалі ў горад ковенскім трактам на брычках праз Пагулянку. Каля самай брамы мы ўбачылі некалькі сотняў казакоў, праўда, без пік. Нас ніхто не спыняў, але калі мы рыссю спускаліся па стромай дарозе, дык нас дагналі казакі, якія заўзята направа і налева махалі нагайкамі, а злева (пад гару) з боку Пагулянкі, якая тады не была забудавана ажно да вуліцы Завальнай і не мела тратуараў, ішла не вельмі шматлікая, але ўжо часткова разагнаная працэсія, людзі спявалі "Божа, што ж Польшча" і неслі некалькі жалобных харугваў. Мы без праблем дабраліся да дома Мілера на вуліцы Нямецкай, і, як толькі прыехалі, нас наведаў малады архітэктар пан Шалевіч, сын вышэйзгаданага адважнага пана Юзафа, які зрабіў нам гарачую справаздачу аб падзеях.

Аказалася, і я пачуў гэта праз шмат гадоў ад другога ўдзельніка гэтай маніфестацыі пана Антушовіча, тлум на Пагулянцы ўзбудзіла вестка ... што з Коўні па шляху Напалеона ўжо ідзе французская армія, якую ў Вержбалове высадзіў англійскі флот![36] Натуральна, у гэтых маніфестацыях удзельнічалі і нашы абавязковыя "аніматаркі" падобных выбрыкаў, то бок мілыя пані і паненкі. На чале іх у Вільні таго часу стаяла пані Александрына Лубанская з Сулістроўскіх, якая паўсюль лётала, нібы матылёк, паўтараючы: "Il faut chauffer, il faut chauffer" ("Трэба падвышаць напал, трэба падвышаць напал", фр. - *Л. Л.*) і чароўная пані Ізя Тышкевічава з Вакі, якая спецыялізавалася на вытанчаных нахабствах у адносінах да генерал-губернатара Назімава, а таксама сімпатычная і мілая панна Валіцкая, якая на Пагулянцы падчас гэтага паходу на Коўню, добра атрымала нагайкай па плячах ад казака, але праз два гады адпомсціла Маскве тым, што выйшла замуж за праваслаўнага пана Міхала Камара[37].

Аповед маладога Шалевіча пакінуў у маіх бацькоў вельмі дрэннае ўражанне. Бацька ўжо прадбачыў, да чаго прывядзе гэтае вар'яцтва. З ім пагаджалася і маці, яна хоць і была вельмі рэлігійнай і патрыятычна ўзнёслай, але з-за стану здароўя вяла эгацэнтрычны лад жыцця і была схільная заставацца над падзеямі. Калі бацька цвёрда вырашыў, што ні ён, ні хто з яго сям'і не будзе ўдзельнічаць у гэтых дзіцячых і небяспечных маніфестацыях, маці без пратэсту падпарадкавалася ў такой важнай справе рашэнню галавы сям'і і была, бадай, адзінай жанчынай, якая да канца не насіла жалобы[38]. Яна заўсёды надзявала рознакаляровыя ўпрыгожванні на сябе і сваіх траіх дзяцей. Гэта, канешне, не адмяняла болю ад страт, якія, як я пакажу пазней, нам было наканавана пацярпець ад маскоўскага ўраду, у той час, калі многія з дэманстрантаў і падпальшчыкаў неяк шчасліва пахаваліся.

Шмат што адрознівае мяне ад поглядаў і метадаў дзеяння пана Рамана Дмоўскага[39], аднак, усё ж я горача абняў бы яго, бо ў сваёй апошняй кнізе "Як адбудоўвалася Польшча" ён, бадай, першы з нашых палітычных кары-

[35] Пасля расстрэлу ў 1861 г. дэманстрацый у Варшаве, асабліва пасля красавіцкай масакры, вулічныя дэманстрацыі змяніліся зборамі ў касцёлах, дзе спяваліся патрыятычныя гімны і адзначаліся памятныя даты з гісторыі Рэчы Паспалітай. "Маральная рэвалюцыя" набывала форму кампаніі грамадзянскага непадпарадкавання і ставіла ў тупік прадстаўнікоў імперскай адміністрацыі, якія ніколі не сутыкаліся з такімі формамі палітычнага жыцця. Жанчыны ў памяць аб красавіцкіх ахвярах нязменна насілі жалобную вопратку. Тыя, хто не насіў жалобы, падвяргаліся на вуліцах маральнаму ціску.

У Лідзе, як і паўсюдна, пад уплывам варшаўскіх расстрэлаў мужчыны апранулі канфедэраткі і чорныя чамаркі, а жанчыны жалобу. Гімн "Божа, што ж Польшча" быў перакладзены на беларускую, літоўскаю, яўрэйскую і ўкраінскую мовы і стаў вельмі папулярным. - *Л. Л.*

[36] У 1855 г. памёр цар Мікалай I, Расія атрымала ганебную паразу ў Крымскай вайне. Сітуацыя, у якой у 1855 г. быў каранаваны новы цар Аляксандр II, адназначна дыктавала неабходнасць рэформаў і лібералізацыі рэжыму. Улады на той момант не мелі праграмы пераўтварэнняў, але "польскае пытанне" непазбежна адразу апынулася ў цэнтры іх увагі. Імператар французаў Напалеон III дэклараваў сабе як абаронца правоў нацыянальнасцей. - *Л. Л.*

[37] Першая маніфестацыя ў Вільні адбылася 20 траўня 1861 г. Пасля яе пратэсны рух пракаціўся па ўсёй гістарычнай Літве: арганізоўваліся паніхіды па загінуўшых у Варшаве, хросныя хады, адзін з якіх у Коўні прайшоў па мосце цераз Нёман і сімвалізаваў унію Літвы і Польшчы. У жніўні 1861 г. у Вільні пасля службы ў касцёле і спеваў гімнаў, каля 5 000 чалавек - шляхты, гараджан і сялян - прайшлі па горадзе ў знак "сардэчнага збліжэння", падчас мірнай маніфестацыі на Пагулянцы рускае войска па камандзе Назімава ўжыло зброю, загінула 11 чалавек. - *Л. Л.*

[38] У чэрвені 1863 года генерал-губернатар Мураўёў забараніў жанчынам нашэнне жалобы нават па страчаных мужах, братах і бацьках. - *Л. Л.*

[39] Раман Станіслаў Дмоўскі (1864-1939), польскі палітычны дзеяч, публіцыст. Дмоўскі распрацаваў асновы нацыянальна-дзяржаўнай арганізацыі Другой Рэчы Паспалітай на падставе канцэпцыі інкарпарацыі і выступаў супраць федэратыўнай канцэпцыі Пілсудскага. У 1923 міністр замежных спраў. Пасля прыходу да ўлады Пілсудскага ў 1926 г. стварыў апазіцыйны "Лагер Вялікай Польшчы", які ў 1933 г. быў забаронены. Сярод іншага, Дмоўскі пісаў пра фатальную ролю "польскага пытання" для гісторыі Рускай Імперыі: далучэнне земляў Рэчы Паспалітай да Імперыі зрабіла немагчымым нармальнае палітычнае развіццё гэтай краіны: *"Колькі разоў Расія ўступала на шлях разумных памяркоўных рэформаў і ў часы Аляксандра I, і ў часы Аляксандра II, альбо ў перыяд станаўлення Думы, і кожны*





феяў меў шчырасць і смеласць выказаць думку, што ўсе нашы паўстанні выбухнулі нясвоечасова і нам трэбы казаць не пра заслугі іх правадыроў, а пра цяжкія грахі перад Бацькаўшчынай. Як потым у Вільні казаў Падарэўскі[40], нельга хадзіць з паходняй каля сямейнай страхі, той, хто так робіць, калі ён нават і выпадкова падпаліць хату, той - не герой, а годны кары злачынец.

Многіх удзельнікаў авантуры 1863 года я асабіста ведаў тады і пазней, але гэта былі не змоўшчыкі, не тыя людзі, якія ахвотна лавілі рыбу ў каламутнай вадзе, бо ім не было чаго губляць, а мелі яны надзею стаць "бацькамі краіны", гэта былі людзі, якія "bene nati et ownerati" ("удала нарадзіліся і валодаюць маёмасцю", лац. - *Л. Л.*), яны не маглі не стаць першымі ахвярамі гэтага вар'яцтва 1863 года.

Я не памятаю ніводнага чалавека, які сцвярджаў бы, што тады ў яго была хоць найменшая, самая аддаленая надзея на поспех справы, у якой ён прымаў удзел. Так, усе яны без выключэння ў доказ сваёй прадбачлівасці хваліліся сваімі прадказаннямі, што падзеі скончацца правалам (хоць і не ў такіх маштабах). Гэта выразна прызнае ў сваіх "Успамінах" нават адзін з галоўных арганізатараў усяго руху ў Літве Гейштар - дык чаму і па што яны туды палезлі?

Якіх толькі прамоваў тады можна наслухацца! Як сёння памятаю - палявалі мы ў мамінага дзядзькі ў Кір'янаўцах. Пасля вячэры я сціпла сяджу ў кутку. Па гасцёўні ходзіць чубаты юнак, копія Адама Міцкевіча 1825 года і ў сваёй прамове ўсе скасоўвае. Не будзе дваранства, не будзе ўласнасці, не будзе ўрада, не будзе духавенства і г.д. Бацька яму цярпліва: "А што будзе на месцы ўсяго гэтага?" Хлопец адкідвае чупрыну назад, арлінымі вачыма азірае ўсіх, робіць паўзу і кажа: "Будуць людзі ... і народ!!!..." [41]. Гэта была эпоха "натуральнага розуму, да якога не дакранулася ніводная навука".

З-за гэтага настрою і з-за трывогі аб будучыні, вакацыі 1861 года былі для мяне значна менш радаснымі, чым у папярэднім годзе.

У кастрычніку мы вярнуліся ў Парыж.

Я пайшоў у 3-ці клас (па французску, а па нашаму - у 6-ты). Мой кругагляд усё больш пашыраўся. Кожны дзень, вяртаючыся з гімназіі, я купляў газету ў разносчыка які чакаў гімназістаў, мае калегі куплялі іншыя газеты і мы абменьваліся імі. Я быў цалкам абазнаны ў сучаснай знешняй і ўнутранай палітыцы.

У 1860 г. Напалеон III, жадаючы заваяваць папулярнасць у народзе, нават не для сябе, а для сваёй дынастыі (такую мару маюць усе парвеню), 21 лістапада 1860 года выдаў знакаміты дэкрэт, які ўнёс даволі моцную плынь свежага паветра ў розныя сферы жыцця [...]. З таго часу і да катастрофы 1870 года, паводле маіх успамінаў і ўражанняў, палітычная сістэма Францыі больш чым дзе-небудзь на кантыненце наблізілася да ідэалу: "свабода і парадак", - заўсёды недасяжны для чалавецтва ідэал.

Дзякуючы катастрофе 1870 г., за якую значна большую долю адказнасці неслі тагачасныя левыя партыі, большую чым сам псеўда-цэзар Напалеон III, які да гэтага часу набыў ва ўсёй Еўропе рэпутацыю горшую, чым рэальна заслугоўваў [...]

Калі я перайшоў у трэці клас банапартскага ліцэя [...] хутка пазнаёміўся з таямніцамі не толькі палітычнага, але і свецкага жыцця тагачаснай сталіцы Сусвету. Нашым каштоўным інфарматарам быў пан Дзмітрый Бенкендорф, унук знакамітага жандара Мікалая I і сын старэйшай з трох дачок грэка Бенардакі, які моцна ўзбагаціўся на акцызнай арэндзе і пасяліўся ў Брусэлі, дзе маладая ўдава Бенкендорф выйшла замуж за маркіза д'Аск. Карэспандэнтам Бекендорфа ў Парыжы, г. зн. прадстаўніком нашых бацькоў, да якога мы хадзілі па нядзелях і святах, быў Ле Дюк дэ Басана, ці Марэль, сын знакамітага начальніка палітычнай канцылярыі Напалеона I. Салон герцагіні дэ Басана быў адным з самых папулярных у Парыжы і наш сябар слухаў там разнастайныя свецкія плёткі, якія потым пікантна даносіў да нас. Да таго ж, пансіён пана Кузіна складаўся амаль выключна з сыноў тагачаснай парыжскай арыстакратыі ці плутакратыі, у тым ліку з выбітных сыноў Ізраіля. У нас было два Ротшыльды (адзін сёння яшчэ жывы), адзін Пэрэй, адзін Гінзбург, які падняўся на ваенных пастаўках падчас нядаўняй Крымскай вайны. Акрамя таго, у некалькіх маіх сяброў меліся старэйшыя браты, якія ўжо патрапілі ў высокія колы парыжскага свету, дзякуючы чаму мы ведалі пра любоўныя прыгоды незабыўных жрыцаў Венеры таго часу: амерыканкі Кора Пэрл, чароўнай Гартэнзіі Шнайдэр, стваральніцы "Пры-

*раз сыходзіла з гэтага шляху. Галоўнай прычынай было "польскае пытанне", а дакладней небяспека, што палякі выка-рыстаюць палітычныя правы дзеля ўмацавання ўласных пазіцый і падрыву рускай дзяржаўнасці... Трэба было выбіраць паміж эвалюцыйным і рэвалюцыйным шляхамі развіцця. У выніку таго, што "польскае пытанне" фактычна заблакавала першы з іх, Расія была прыгавораная да рэвалюцыі. Магчыма, апошнія падзеі ў Расіі* (маецца на ўвазе рэвалюцыя 1917 г. - *Л. Л.*) *з'яўляюцца расплатай за панаванне над Польшчай"* - *Л. Л.*

[40] Ігнацы Ян Падарэўскі (1860-1941), польскі піяніст, кампазітар, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, дыпламат. Са студзеня па снежань 1919 г. займаў пасаду прэм'ер-міністра і міністра замежных спраў Польшчы. - *Л. Л.*

[41] Верагодна, гэта быў Лясковіч Войцех Альберт, сын Фелікса, дваранін Лідскага павета. Да паўстання 1863 г. яго бацька валодаў маёнткамі Кір'янаўцы і Пяткаўшчына Лідскага павета. Падчас паўстання агітаваў дваровых людзей удзельнічаць у ім, таму яго маёмасць на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 і пастановы Віленскага грамадзянскага праўлення ад 23.07.1863 падлягала секвестру. Пастановай ваеннага суда прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці. Прысуд выкананы (да 01.10.1864). Ягоныя парэшткі разам з парэшткамі іншых паўстанцаў нядаўна былі перазахаваныя ў Вільні. - *Л. Л.*





гожай Алены" і пазней Вялікай герцагіні Геральштэйн, Джульеты ле Бо, неўзабаве, спадарожніцы жыцця графа Міхала Тышкевіча[42], Ганны Дэсліён і інш. - быццам мы спалі пад іхнімі ложкамі. Таксама мы былі знаёмы і з тэатральным жыццём. Мой бацька, сам заўзяты аматар тэатра, прымушаў нашу бедную дзявотку[43] - маці, для адукацыі браць нас на спектаклі. І яна, не дзеля ўласнага задавальнення, бо ў яе наогул не было пачуцця музыкі, а толькі дзеля дзяцей, вадзіла нас у італьянскую оперу.

Акрамя таго, пан Кузін, калі нашых бацькоў не было ў Парыжы, па суботах ці на святах вадзіў нас у "цнатлівыя" тэатры: гэта значыць у "Французскі тэатр" і "Гімназ", дзе панавала незабыўная Ружа Шэры, а таксама ў "Вялікую оперу" або ў "Камічную оперу".

Мой бацька лічыў, што выхаванне хлопчыкаў не павінна грунтавацца толькі на кнігах. Таму, каб кожны з нас меў "па некалькі струн", ён з самага пачатку, каб мы "не загінулі марна", загадаў нам браць дадатковыя ўрокі музыкі і малявання. Мой брат, які быў вельмі таленавіты ў маляванні і жывапісе, да 20 гадоў не мог сыграць нават польку. А я, маючы сапраўдны талент да музыкі, ніколі не мог належна намаляваць нос. І ажно да паступлення ва ўніверсітэт мы мелі пакуты - брат Ігнацы ад фартэпіяна, а я ад малявання.

У той час, і фактычна аж да з'яўлення аўтамабіля (хай яго ліха возьме), у ясныя дні Елісейскія палі і Булонскі лес былі штодзённым месцам збору ўсіх, хто прэтэндаваў на элегантнасць. Хто гэтага не бачыў, той не мае ўяўлення пра сапраўдны парад вытанчаных карэт і коней. Заўсёды было з дзесятак конных экіпажаў а-ля Дамон з двума фарэйтарамі[44]. Таму, як казаў вялікі Талейран, той, хто не ведаў Версаля ў часы Людовіка XVI, той не мае ні найменшага паняцця аб слодычы жыцця, а я б дадаў, што той, хто не бачыў Парыж у апошнія 10 гадоў Другой французскай імперыі, той не мае ўяўлення пра сапраўдную элегантнасць.

У 1862 годзе мы зноў паехалі адпачываць у наш край. Дабраліся ўжо цягніком ажно да Коўні, а праз два месяцы ў адваротны шлях ужо селі ў вагон на сённяшнім вакзале ў Вільні[45]. Што раз усё больш і больш разумны хлопчык, я мог адразу адчуць - тое, што яшчэ год таму было зародкам хваробы, сёння ўжо прыняло форму эпідэміі. Вулічных маніфестацый не было, але паўсюдна ў касцёлах (апрача як у бацькаўскіх Геранёнах, дзе мудры пробашч Баярынскі падтрымаў майго бацьку) службы заканчваліся спевам "Божа, што ж Польшча", а часам нават і "З дымам пажараў" [46]. Чамаркі сталі амаль што абавязковай вопраткай, а з іншага бока расійская талеранцыя ўсе павялічвалася. Нагадаем тут пра высілкі ў Каралеўстве вялікага Аляксандра Веляпольскага[47], які дабіўся таго, каб застаўся толькі адзін расейскі чыноўнік - вялікі князь Канстанцін.

І без таго нязначная колькасць расейцаў ва ўладных установах яшчэ больш зменшылася. Калі ў Гародні вызваліліся пасады губернатара і віцэ-губернатара, на іх месца прызначылі памешчыка са Свянцянскага павета Хамін-

[42] Граф Міхал Тышкевіч (1828, Валожын -1897, Рым) - падарожнік, калекцыянер, археолаг-аматар.

Падарожнічаў па Егіпце і Нубіі (1861-1862, 1867-1868), вёў раскопкі і збіраў калекцыю антыкварыяту, якая цяпер размеркавана па многіх музеях свету (у тым ліку Парыж, Лондан, Капенгаген, Берлін, Бостан, Рым, Нацыянальны Музей у Варшаве). Аўтар Дзённіка падарожжа ў Егіпет і Нубіі (1861-1862), апублікаванага ў Парыжы ў 1863 годзе. Калекцыянер антычнага мастацтва.

2-гі ардынат Біржанскі (1862-1897), пацверджаны ў званні графа ў Расійскай Імперыі 8 траўня 1861 года.

Яго першай жонкай у 1849 годзе ў Бердзічаве стала княгіня Марыя Радзівіл (1830-1902), дачка князя Мікалая Радзівіла (1801-1853) і Вікторыі Эміліі Нарбут (1800-1855). У мужа і жонкі было два сыны і тры дачкі:

- Граф Юзаф Тышкевіч-Лагойскі (1851 - 1905), 1-я жонка з 1888 года Хелена Лаская (1862-1890), 2-я жонка з 1893 года Ізабэла Эмілія Вераніка Лаская (1859-1944), сястра першай жонкі.
- Граф Ян Антоній Тышкевіч-Лагойскі (19 сакавіка 1852 - 9 чэрвеня 1901), 3-ці ардынат Біржанскі (1897-1901), з 1878 года меў жонку графіню Клемянціну Патоцкую (1856-1921).
- Графіня Ядвіга Тышкевіч-Лагойская (1857-1879), з 1868 года муж - Адольф Марыян Бажэнік-Ялавіцкі (1841-1898).
- Графіня Вікторыя Марыя Тышкевіч-Лагойская (1858 - 4 жніўня 1901), з 1878 года муж граф - Аляксандр Галабек-Язёрскі (1852-1895).
- Графіня Ванда Тышкевіч-Лагойская (1863-1929), з 1883 года муж - Казімір Клеафас Раймунд Сулятыцкі (1854-1925).

Другой жонкай Міхала Тышкевіча ў 1873 годзе стала яго даўняя палюбоўніца, француженка Джульета ле Бо (нар. 1840). Другі шлюб быў бяздзетным. - *Л. Л.*

[43] Дзявотка - празмерна набожная жанчына. - *Л. Л.*

[44] Яшчэ за 30 гадоў да з'яўлення аўтамабіля, з уздымам рэспублікі, недзе ў 1871 годзе карэты а-ля Дамон зніклі з Булонскага лесу.

[45] У 1862 г. пачала працаваць чыгунка Пецярбург-Варшава. - *Л. Л.*

[46] Музыка Юзафа Нікаровіча, словы Карнеля Уейскага. - *Л. Л.*

[47] Аляксандр Ігнацы Веляпольскі (1803-1877), польскі дзяржаўны дзеяч. З лістапада 1861 г. памочнік намесніка Каралеўства Польскага вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча, віцэ-старшыня Дзяржаўнага савета Каралеўства Польскага. Ініцыятар шэрагу ліберальных рэформаў, са жніўня 1863 г. у адстаўцы. - *Л. Л.*





скага і нашага суседа Эміля Умястоўскага. Сёння я маю рэтраспектыўнае меркаванне, зважаючы на старыя традыцыі піцерскай бюракратыі рабіць правакацыі, што гэтая паблажлівасць была наўмыснай, як пазней 9 студзеня 1905 г. і ў сакавіку 1917 г., падчас так званых "крывавых лазняў". Нашы шчырыя і аптымістычныя патрыёты самі лезлі, як мухі на мёд. Дадам, што калі ў 1910 г. у Дзяржаўнай думе разглядаўся праект Сталыпіна аб ліквідацыі фінскай аўтаноміі і русіфікацыі ўсёй фінскай дзяржавы, мой калега Ксаверый Арлоўскі пачуў канец размовы двух саноўнікаў: "Дрэнна тое, што гэтыя фінскія шэльмы маюць халодныя галавы, іх, як палякаў, на паўстанне не падпіхнеш".

Бацька ўсяляк стараўся зрабіць наша знаходжанне ў краі больш прыемным, каб нам падабалася тут больш, чым у Францыі. Ён прыдумаў прывезці да нас у Геранёны на ўвесь адпачынак, віленскага берэйтара пана Лукашэвіча з некалькімі яго добра выдрэсіраванымі канямі. Лукашэвіч, якому тады было 45 гадоў, удзельнічаў у венгерскім паўстанні ў 1848 г. пад кіраўніцтвам Дэмбінскага і Бэма, і таму, верагодна, насіў не чамарку, а так званую венгерку. Ён адразу пачаў праяўляць асаблівую прыязнасць да мяне і называў мяне "паручнікам". Акрамя сваіх манежных коней ён узяў з сабой яшчэ і вельмі прыгожага каня. На раніцы мы рэгулярна і метадычна бралі ўрокі на гэтых манежных конях, а пасля абеду, разам з маёй сястрой, якой было тады 15 гадоў і нашай 18-ці гадовай стрыечнай сястрой Ізабэлай Мікашанкай, якая зачаравала ўсю маладую Вільню сваёй прыгажосцю, мы (я і мой брат на нашых уласных конях) ездзілі на доўгія прагулкі. Сам Лукашэвіч, з заўсёды падвешанай на баку шабляй, ездзіў на згаданым вышэй маладым кані. Праз тыдзень, ён прызнаўся мне, 14-ці гадоваму смаркачу, што конь належыць пану Юзафу Снядэцкаму і што ён аб'езджаны для яго, будучага ротмістра, які сфармуе эскадрон, у якім ён, Лукашэвіч, будзе вахмістрам!

У верасні гэтага года адбылося вяселле адной са шматлікіх гадаванак і адначасова, татавай пляменніцы. Паколькі двор яе маці межаваў з Менскім паветам, быў невялікім і аддаленым для гасцей, бацька вырашыў аддаць яе замуж з Геранёнаў. А паколькі, з-за агульнапрынятай нацыянальнай жалобы немагчыма было танчыць, бацька вырашыў замяніць танцы самадзейным тэатрам. Глядзельную залу і сцэну ён уладкаваў у вялізным новым мураваным амбары, які быў пабудаваны ў стылі парыжскага касцёла св. Магдалены. Зала была ўпрыгожана гірляндамі зяляніны і кіламетрамі рознакаляровай тканіны. Трупа складалася з майго дарослага і вельмі прыгожага брата ў ролі першага каханка, мяне, як першага коміка, Лукашэвіча, як рэзанёра, маёй сястры Марыі і стрыечнай сястры Ізабэлы Мікашанкі (першай, у амплуа наіўніцы, а другой, - какеткі) і бухгалтара немца Шварца які самой прыродай быў асуджаны выконваць гратэскную ролю. Мы сыгралі дзве аднаактавыя камедыі. За выключэннем выфранчанага таты, усе мужчыны былі апранутыя ў разнастайныя патрыятычныя строі: чамаркі, венгеркі, касцюшкаўскія сукманы і г. д. Калі мы ўжо сядалі за вясельную вячэру, прыехаў чацвёркай модных тады таўсталобых коней, верагодна адмыслова для гэтага дачакаўшыся адпаведнага моманту ля брамы, няпрошаны і нечаканы, вялізны, пузаты, размашысты, абсалютна як Заглоба, пан Вільгельм Пратасевіч, слынны ў наваградскім, лідскім і слуцкім паветах дасціпнік, аўтар гумарыстычных эпічных твораў ... і дармаед[48]. На ім быў белы кунтуш з вылётамі, кармазынавы жупан, слуцкі пояс, саф'янавыя боты, канфедэратка з паўлінавым пяром, бракавала яму толькі карабелі, бо не любяць паслядоўнікі Заглобы нечакана сустрэць паліцыю. Вядома, бацька не вельмі ўзрадаваўся такому праслаўленню Рэчы Паспалітай, але гасціннасць абавязвала не паказваць гэтага, і хутка пан Вільгельм сваім шалёным запалам здолеў загладзіць свой выбрык.

У кастрычніку таго ж 1862 года мы зноў вярнуліся ў Парыж, і я пайшоў у перадапошні клас. Бацька павінен быў прыехаць на Каляды. Французская прэса вельмі цікавілася польскім пытаннем. Князя Адама Чартарыскага ўжо год як не было. На пасадзе "караля партыі" яго змяніў другі сын, князь Уладзіслаў, жанаты з княжной Ампарай, марганатычнай дачкой іспанскай каралевы Крысціны і такім чынам, зводнай сястрой пануючай каралевы Ізабэлы. Нягледзячы на тое, што князь Уладзіслаў атрымаў у спадчыну напаўафіцыйнае становішча свайго бацькі ў свеце, ён не атрымаў у спадчыну ні яго выключнага розуму, ні яго асаблівага вопыту, і гатэль "Ламбер" стаў генеральным штабам партыі "белых" экстрэмістаў, якія адкрыта падштурхоўвалі да паўстання. Традыцыйна на Каляды ў гатэлі "Ламбер" адбыўся дабрачынны вечар[49] на карысць беднай эміграцыі, на ім гандлявалі не толькі польскія, але і шматлікія французскія і замежныя вялікасвецкія дамы. Вечар 1862 г., куды мяне адвёз мой бацька, быў выключна прыгожым і карысным.

Прысутнічала на ім, тады яшчэ маладая, не вельмі прыгожая, але абаяльная графіня Марыя, жонка Міхала Тышкевіча (у дзявоцтве Радзівіл), чый муж, каласальнага росту, вельмі прыгожы, эфектны вялікі пан і прафесійны няўдачнік, успадкаваў пасля смерці дзядзькі Яна вялізную ардынацыю Біржы і ўжо спяшаўся пасяліцца ў шыкоўных апартаментах на вуліцы Фобур Анарэ. Тут я часта бавіўся з яго сынамі, маімі аднагодкамі. Гэтым вечары ён купіў у жонкі філіжанку гарбаты і заплаціў за яе дзесяць тысяч франкаў. Натуральна, што ўсе дамы, нават і замежніцы, былі ў жалобе і пра ўваскрэсенне незалежнай Польшчы ад мора да мора, гаварылася з такой жа ўпэўненасцю, як у жніўні 1914 года ў Берліне крычалі: "На Парыж".

*(Працяг у наступным нумары.)*

[48] Гл: Пратасэвіч Вільгельм. Суседчык гавейскі (з прадмовай Юрыя Пацюпы) // Ад Лідскіх муроў. 2019. № 9. С. 6-47. - *Л. Л.*

[49] У тэксце "вента" - такую назву мела ложа карбанарыяў. - *Л. Л.*



№ 35 (139) 28 ЖНІЎНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## Аповесці з рэальнага жыцця: Вільякорта, Пашкоўскі, Хартановіч; Аповесць з Пагоркаў Аленевага Моху (ч. 1)

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-34 (105-138) за 2024 г.)*

***Ягор Чаркасаў***
***(Рагавая Люлька)***

### АПОВЕСЦЬ З ПАГОРКАЎ АЛЕНЕВАГА МОХУ

Мяне завуць Ягор - Рагавая Люлька. Я нарадзіўся ў 1982 годзе ў сям'і вайскоўца ў горадзе Менску. Але першыя дзесяць гадоў майго жыцця правёў у Эстоніі. Бацька шмат паляваў, добра ведаў мясцовага егера і ўвесь час браў мяне з сабой у лес.

З запісаных успамінаў аб дзяцінстве:

"Пахмурна. Яшчэ нядаўна дарога была раскіслай настолькі, што праехаць па ёй было даволі цяжка. Аднак зараз, калі стукнулі першыя маразы, машына, праломліваючы коламі тонкі лядок на лужынах, прабіралася ўглыб лесу. Па лабавым шкле УАЗ-іка білі аголеныя галіны ляшчыны і яловыя лапы. Неўзабаве дарога скончылася вялізнай багнай. Мы з бацькам выйшлі з машыны, і пад нагамі ў нас зашамацела прыцярушанае снежнымі крупамі лісце клёну і ляшчыны. Справа, злёгку не даязджаючы, размяшчалася вялікая кармавая пляцоўка для дзікіх жывёл: пад падстрэшкамі былі нарыхтаваныя венікі для зайцоў, сена для казуль у асобых кармушках, тут жа непадалёк саланцовыя пні для ласёў, падсечаная асіна... Бацька часта лавіў пасткамі пушнога звера, і неўзабаве мы падышлі да пасткі, у ёй - ужо скарчанелая куніца... Памятаю заімку лясніцтва Коаса [Кооса, Кооза, Koosa], вальер з лайкамі, егерскі дом з невялікім жылым пакоем і вялізнай кухняй, у якой ва ўсю даўжыню памяшкання выцягнуўся масіўны стол. На гэтым стале было ўсё, пачынаючы ад крыштальных салатніц, з якіх чамусьці елі лайкі, заканчваючы ланцугом для бензапілы. На сценах уздоўж яго вісела шмат рагоў ласёў і казуль… Неяк раз мне паказалі мядзведжыя сляды, што адбіліся на дарозе, метраў за 50 каля егерскага дома… Памятаю забалочаны буралом, дзе ідзеш па лыткі ў вадзе і раз-пораз даводзіцца перабірацца праз паваленыя ветрам ствалы дрэў. Неўзабаве мы выйшлі на дарогу. Празрыстае, чыстае паветра, здаецца, нават зараз чую тыя пахі... Неба было бясхмарным і залітым сонечным святлом, а высока над намі цягнуўся жураўліны клін...

Аднойчы мы паехалі глядзець адзін стары хутар з мэтай пакупкі… Дом быў вельмі стары і зусім струхлеў.



***На ранних паувау. Среди индеанистов на фото - будущие члены Белорусско-индейского общества Богдан Яхвак (четвертый слева в дальнем ряду) и Елена Костенко (позже Бриш; вторая справа). Из коллекции Е. Бриш***

Дошкі даўно прагнілі, з-пад іх расла крапіва. Праз вакно, зацягнутае павуціннем, у памяшканне прабіваліся промні заходзячага сонца, аб шкло біўся прыгожы вялікі матылёк. Тады ён мне здаўся асабліва вялікім, мабыць, таму што я быў яшчэ маленькі... Месца, дзе стаяў хутар, з усіх бакоў было зацiснутае лесам, а зусім побач, на паляне, працякала ручай-рачулка, крышталёвая вада, якая весела журчала ў густа зарослых травой берагах, дазваляла бачыць кожны каменьчык на дне...

Адна з маіх першых у жыцці рыбалак. Я вучыўся тады ў 1-м класе. Бацька забраў мяне прама з урокаў... Чудскае возера, вечар цёплага вясновага дня, ужо не памятаю, быў гэта май ці красавік... Мы адплылі на лодцы, і я крыху баяўся, можа я наогул тады сядзеў першы раз у лодцы. Поўная бязветранасць, сіняе чыстае неба, сонца хіліцца да захаду сонца, і над намі зноў жураўлі, якія вяртаюцца на Радзіму... Можа, менавіта з тых часоў, я так люблю глядзець у вышыню, назіраючы за аблокамі і птушкамі, што лунаюць у ёй... Рыбы лавілася вельмі шмат і на вуду, і сеткамі - іх ставілі тут і ўзімку пад лёд… Я не магу не згадаць сваё першае паляванне… Аднойчы бацька прывёз мне з Масквы цацку - дзіцячую стрэльбу, якая даволі далёка і моцна страляе кулькамі накшталт пластмасавага корка, настолькі моцна, што я нават пацікавіўся, ці можна з яго збіць качку, на што атрымаў сцвярджальны адказ. Паветра для стрэлу нагняталася ў ім з дапамогай рычага пад шыйкай ложы зусім як у "вінчэстарах" каўбояў, якіх я бачыў па тэлевізары… Гэтая стрэльба прыносіла мне






*Танта (Алег Жылінскі) з тамагаўкам (от Олега Жилинского)*

шмат радасці, і я заўсёды браў яе ў лес, калі бралі туды мяне… Адным восеньскім вечарам мы стаялі на дамбе: бацька са сваім ІЖ-54 глядзеў у адзін бок, а мне загадаў глядзець у супрацьлеглы і, калі дзічына будзе налятаць з майго боку, апавясціць яго… Але ён не прыняў у разлік мой "вінчэстар"… І крыжанка наляцела з майго боку… "Чпок"… Качка адлятала, а я стаяў са сваёй "зброяй", гадаючы, куды ж упала "куля", якая далёка не даляцела да мэты…"

Ужо ў тыя гады я адчуваў цікавасць да кніг, і калі нейкая была складаная для мяне, я прагортваў яе ў пошуках малюнкаў. На паліцы ў нас стаяла пяцікніжжа Купера, а там намаляваныя тыя самыя індзейцы, пра якіх часцяком паказвалі фільмы па тэлевізары. Гэтыя індзейцы нечым вельмі мне падабаліся. Дзіця не ведае чаму, пра гэта могуць разважаць дарослыя, а тубыльцы мяне зачапілі, і ўсё тут… "Тата, пра што тут напісана?" - пытаюся я, прагортваючы "Прэрыю" Фенімора Купера. "Пачытай, даведаешся..."

Першая кніга, якую я прачытаў, была, зразумела, не "Прэрыя", а "Рабінзон Круза" ці "Востраў Скарбаў",



PREPARING FEATHERS

WHEN a warrior had enough feathers to make a war bonnet, he invited a few of his friends to his tepee. After enjoying a meal and smoking the pipe, they ceremoniously laid out the feathers and sorted them according to size. As each feather was being prepared, the story of the deed performed by the warrior in earning it was retold. Then the feather was fastened in its place on the war bonnet.

To make a good bonnet, you must be careful to get good feathers. Perhaps when your butcher prepares his next batch of white turkeys, he will keep the tail feathers for you. Wash them before making your bonnet. Directions for doing this are on pages 24 and 25.

Don't spoil your headdress by using bright green, purple, or orange feathers. Correct Indian colors for a headdress are natural dark brown tipped eagle (or turkey) feathers, white base fluffs, binding of red felt with yellow yarn, white tip fluffs, and red or yellow horsehair.

The loops by which the feathers are attached to the headdress can be prepared in two ways. The first way is to soften the end of the quill with hot water, notch with a knife, and tuck the end up into the quill, making a loop. This is the



***Preparing feathers. Ben Hunt. The Golden Book of Indian Crafts and Lore p. 14 (notes by Alvin Bobidosh)***

цяпер ужо не памятаю дакладна, але вобразы форта, абарыгенаў і чалавека з мушкетам, стрэльбай у лесе не пакідалі мяне. Не моцна памятаю фільмы з Гойка Міцічам, але вельмі добра памятаю, што мяне ўразіў дэфаўскі "Георг - Сіняя Птушка" і айчынныя фільмы па раманах Купера... Прыгодніцкія фільмы для дзяцей у канцы 1980-х-пачатку 1990-х наогул круціліся з зайздроснай рэгулярнасцю, а яшчэ людзі сталі вешаць спадарожнікавыя антэны "талеркі", і, хоць у нас такой не было, чамусьці з'явілася трансляцыя нейкага нямецкага канала. Па ім часта ішлі вестэрны, не падкажу ўжо, што менавіта гэта былі за фільмы і якіх гадоў, але глядзеў я іх з задавальненнем і без усялякага перакладу. Зразумела, нічога іншага, акрамя як салдацікаў-індзейцаў, каўбояў ці зброю я і жадаць не мог ад Дзеда Мароза. З хлопцамі ў двары я меў зносіны мала (ды і не асабліва мне гэта было цікава), а ў лес мяне бралі шмат… Так я і ўваходзіў ва ўзрост малодшага школьніка - у кузаве УАЗіка, што буксаваў у лесе, ці ў гасцях у егера, ці на лясной сцяжынцы, сам сабе гуляючы ў індзейца ці Сакалінага Вока, з адпаведнымі вобразамі і летуценнямі ў галаве... Насенне клалася на падрыхтаваную глебу, усё выклікала адпаведныя асацыяцыі, усё было побач, тут жа...

***

